ЗАСНАВАНА 1 студзеня 1982 года

# ТРЫБУНА ПРАЦЫ

Грамадска-палітычная ГАЗЕТА
БАБРУЙСКАГА раёна

№44(2451) Серада, 7 чэрвеня 2000 года Цана 60 руб.

*Яшчэ нядаўна механізатары калгаса "Перамога" шчыравалі на яравым палетку, дзе ішла веснавая сяўба. Яе мясцовыя хлебаробы паспяхова завяршылі. І вось на чарзе — другая работа. Не менш адказная і не менш важная. У гаспадарцы пачалася касавіца траў, бо прыспела пара паклапаціцца аб кармах для жывёлы на будучую зімоўку.*

*Мінулы стойлавы перыяд быў даволі складаным. Адчуваўся недахоп фуражу на фермах. І з гэтага ў калгасе зрабілі пэўныя высновы, аб чым і паведаміў у размове старшыня гаспадаркі Леанід КАЛІНАЎ:*

### *Зялёнае жніво – 2000*

## КЛАДУЦЦА ТРАВЫ Ў ПРАКОСЫ



— Рашылі марна не губляць часу, а пачынаць касьбу там, дзе добры травастой. Дык можа хоць які другі ўкос будзе. Бо хто яго ведае, сёлетні год можа аказацца не лепшым, чым летась, — заклапочана адзначыў Леанід Пятровіч.

І ён меў рацыю. Сёлетні май ужо праявіў сябе не лепшым чынам. Падмарозіў не толькі пасевы збожжавых і ўсходы кукурузы, якую ў калгасе гэтай вясной пасеялі даволі рана, але і прыхапіў нават культурныя травы, у прыватнасці маладую цімафееўку. Да таго ж за ўвесь месяц — лічы, ніводнага дажджу. А травы таксама, аказваецца, цяпло і вільгаць любяць.

Старшыня расказаў аб планах корманарыхтоўкі. Сёлета ў гаспадарцы стаіць задача назапасіць уласных травяністых кармоў у разліку на ўмоўную галаву кыбеляне менш як па 18 цэнтнераў кармавых адзінак. З гэтай мэтай своечасова падкармілі сенажацыі, якія тут займаюць тысячу гектараў. Акрамя таго, у два з палавінай разы павялічылі пасевы кукурузы. Калі летась пад яе было адведзена ўсяго 50 гектараў, то сёлета — ужо 130.

— За сезон нам неабходна нарыхтаваць 970 тон сена і закласці ў траншэі 4,5 тысяч тон сенажу і сіласу, — падсумаваў Калінаў.



Як высветлілася з размовы, тэхнікі для выканання пастаўленай задачы ў калгасе хапае. Уборачныя агрэгаты ў прынцыпе гатовы да выхаду на лугі – было б што касіць. Вось толькі адзін з двух КСК-100 пакуль на рамонце ў "Сельгастэхніцы". З рухавіком у машыне сур'ёзныя непаладкі. Затое нямецкі агрэгат Е-302 калгасныя ўмельцы Міхаіл Міхайлавіч Самак і Віктар Васільевіч Гарбачэўскі змаглі пераабсталяваць. Як вядома, з запчасткамі да замежнай тэхнікі тугавата, іх не дастаць — дык яны замест роднай жняяркі да гэтай машыны прыстасавалі жняярку ад КСК-100. І цяпер ніякіх праблем.

За кожным уборачным агрэгатам у калгасе замацаваны вопытныя механізатары, адменныя касцы, і старшыня ў гэтай сувязі не прамінуў выказаць сваё задавальненне. На спраўным камбайне КСК-100 працуе Віктар Сяліцкі. Абкатаў сваю касілку Е-281 і ўжо выйшаў на лугі Мікалай Бандарчук. На двух новых касілках КДН-210, якія калгас на днях павінен забраць з завода "Бабруйскаграмаш", будуць весці нарыхтоўку кармоў Вячаслаў Бандарчук і Анатоль Шкрадзюк.

Прадумана аплата працы людзей. Вырашана пытанне з забеспячэннем іх гарачым харчаваннем на сенажацях. Адным словам,у гаспадарцы пастараліся прадугледзець усё ў арганізацыйным плане, каб кормаўборачны канвеер закруціўся і не даваў збояў.

І вось мы бярэм накірунак ва ўрочышча Дубкі, што за Плёсамі аж на мяжы з суседнім калгасам імя А. Неўскага. Па дарозе сюды старшыня паведаміў:

— Пачалі касіць на сена купкоўку. Тут яе ў нас 24 гектары. А яшчэ 30 на насенне пакінулі. І ведаеце, даволі неблагі травастой. Вось і паспрабуй угадай: пасеялі б больш – былі б з сенам... А цімафееўка сядзіць, пакуль у рост ідзе слаба, — разважаў Калінаў.

Купкоўка сапраўды вырасла ладнай і густой, што шчотка, таму пракосы ляжалі пухлыя, і ад іх несла прыемнай свежасцю і духмянасцю. Добрае сена будзе, бо трава скошана якраз у тэрмін, не перапсела.

З процілеглага канца лугу да дарогі, дзе прыпыніліся мы, паўзлі дзве касілкі. На замежнай самаходцы Е-302 працаваў малады механізатар Юрый Самак, а на трактары ў агрэгаце з КПРН-3 касіў яго цёзка па прозвішчу Міхаіл Самак.

— Дарэчы, яны не толькі выдатныя касцы, але і родзічы, — вітаючыся з механізатарамі, заўважыў Леанід Калінаў і, ужо звяртаючыся да іх, пацікавіўся:

— Ну, як справы, хлопцы?

— Не бяды трава, Пятровіч. Паболей бы такой. А тэхніка працуе нармальна, — адказаў старэйшы з іх, Міхаіл Васільевіч.

— Там, у пачатку ўчастка грыва засталася. Дык вы яе падкасіце, — падказаў механізатарам старшыня. — Не будзем губляць ні шматка травы, бо хто яго ведае, якім выдасца лета і што яшчэ будзем касіць...

Агрэгаты развярнуліся і зноў накіраваліся ў процілеглы бок лугу, пакідаючы за сабой пракосы свежа скошанай травы. З яе калгас сабярэ першыя тоны сена. Не падвяло б надвор'е ды вырас бы травастой — а працоўнага настрою корманарыхтоўшчыкам калгаса "Перамога" не займаць.

**М. БОСАК.**

### УБОРКА ГРАЎ ПЕРШАГА ЎКОСУ Ў ГАСПАДАРКАХ РАЁНА

па стану на 6 чэрвеня 2000 года

| Назва гаспадарак: | План (га) | Скошана ў % да плана | Убрана (га) |
|---|---|---|---|
| *Калгасы:* | | | |
| "Прагрэс" | 511 | 28 | 117 |
| "Гігант" | 1459 | 25 | 210 |
| імя Някрасава | 592 | 19 | 60 |
| імя Неўскага | 1237 | 18 | 190 |
| "Шлях Леніна" | 747 | 17 | 57 |
| "Перамога" | 771 | 16 | 90 |
| імя Мічурына | 890 | 15 | 60 |
| імя Фрунзе | 434 | 13 | 28 |
| імя Дзяржынскага | 907 | 9 | 28 |
| "Сцяг камуны" | 1090 | 7 | 57 |
| імя Пушкіна | 1059 | 7 | 48 |
| імя XXII з'езда КПСС | 1101 | 3 | - |
| "Гарохаўскі" | 807 | 2 | 13 |
| *Саўгасы:* | | | |
| "Кісялевічы" | 102 | 18 | - |
| Птушкафабрыка | 780 | 13 | 90 |
| "Дойнічава" | 1162 | 12 | 10 |
| "Бабруйскі" | 1221 | 3 | - |
| імя Леніна | 1121 | 2 | 15 |
| "Осава" | 944 | 1 | 7 |
| АГФ "Бярэзіна" | 601 | – | - |
| "Пятровічы" | 438 | – | - |
| УСЯГО ПА РАЁНУ | 17944 | 10 | 1080 |



*НА ЗДЫМКАХ: задаволены добрай травой старшыня Леанід Калінаў; (злева направа) – механізатары Міхаіл Самак і Юрый Самак, якія першымі распачалі зялёнае жніво ў гаспадарцы; ідзе касьба купкоўкі.*

**Фота Б. ВАРФАЛАМЕЕВА.**

## ПАДПІСКА – 2000

Ці зможаш ты, жыхар раёна, пражыць без сваёй газеты?

Дзе, як не на старонках "Трыбуны працы" ты знойдзеш свежыя навіны аб працоўных дасягненнях землякоў, даведаешся аб тым, што новага адбылося на Бабруйшчыне за апошні час, пазнаёмішся з цікавымі, змястоўнымі матэрыяламі супрацоўнікаў рэдакцыі і няштатных аўтараў, інтэрв'ю з цікавымі людзьмі і шмат іншых публікацый на самыя розныя тэмы? Усё гэта будзе друкавацца на старонках раёнкі і ў наступным паўгоддзі.

Не забудзь падпісацца!

Кошт на "Трыбуну працы":

На месяц — 372 рублі;

на квартал — 1116 рублей;

на паўгоддзе — 2232 рублей.

Сяброўства працягваецца!

## ЗАКУП ПАВЯЛІЧЫЎСЯ ІСТОТНА

Мяркуючы па выніках работы нарыхтоўшчыкаў раёна, якія збіраюць з падворкаў вяскоўцаў лішкі малака дзяржаве, сёлета з пачатку года істотна павялічыўся закуп гэтай прадукцыі.

Так, за чатыры першыя месяцы з прыватнага сектара паступіла ў цэлым 997 тон малака, што ў параўнанні з адпаведным перыядам летась склала 128,7 працэнта. За гэты час у разліку на карову яго закуплена ў сярэднім па 188 кілаграмаў — на 50 больш, чым у мінулым годзе. Найбольшага поспеху ў гэтай справе дабіліся малаказборшчыкі калгасаў імя А. Някрасава і "Прагрэс", а таксама саўгаса "Дойнічава".

З пачатку года значна лепш была арганізавана работа і на кантрактацыі цялят у насельніцтва. За названы перыяд іх закуплена ад вяскоўцаў 935 галоў, што на 131 цяля больш, чым летась.

**М. ВЕРАСОЎСКІ.**

***Некалі пасада старшыні калгаса ці дырэктара саўгаса не толькі лічылася прэстыжнай, яна давала магчымасць для далейшага росту, з'яўлялася той прыступкай, па-за якой прыадчыняліся дзверы ў элітны свет... Цяпер аб гэтым так не скажаш. Не кожны асмеліцца ўзначаліць калгас. Больш таго, кіраўнік адной з гаспадарак раёна змяніў гэтае клапатлівае месца на больш ціхае і спакойнае, а чалавек, які прыйшоў яму на змену, раптам пакінуў свой пост...***

***І наогул, складваецца такое ўражанне, што пераважная большасць кіраўнікоў гаспадарак раёна не толькі не бачыць выйсця з зацягнуўшагася крызісу, але і не імкнецца яго пераадолець. Размаўляючы не так даўно падчас адной сустрэчы з паважаным мною старшынёй аднаго з калгасаў, ён шчыра прызнаўся ў тым, што існуючая сістэма калектыўнага гаспадарання неэфектыўная. Толькі самагубцы, маўляў, могуць прэтэндаваць на старшынёўскі хлеб...***

***"Самагубцы"... Я, вядома, не пагадзіўся з такім меркаваннем. Але прамаўчаў. Несумненна, доля ісціны ў тым ёсць, што цяперашнія нашы гаспадаркі перажываюць не лепшыя часіны. Але адважвацца — значыць загадзя паставіць на сабе крыж. Дык ці варта тады брацца за справу наогул? Думаю, што пераважная большасць кіраўнікоў перш чым даць згоду заняць тую ці іншую пасаду тысячу разоў узважыць ўсе "за" і "супраць".***

***Не стаў выключэннем з гэтага правіла і сённяшні старшыня калгаса "Сцяга камуны" Павел Паўлавіч Дашкоўскі. Перш чым прыйсці ў суседнюю гаспадарку, ён доўгі час працаваў у калгасе імя Пушкіна. Прайшоў добрую школу гаспадарання былога старшыні В.М. Тумашэнкі, сфарміраваў на сельскагаспадарчую праблему свой уласны позірк. А таму, калі паступіла прапанова выставіць сваю кандыдатуру на пасаду кіраўніка "Сцяга камуны", ты пасля некаторых разваг даў згоду. Пра самагубства, вядома ж, не думаў. Ведаў, што гаспадарка знаходзілася ў крытычным стане і без тэрміновага рэанімiравання не абыйсціся...***

***Як справы, кіраўнік?***

Павел ДАШКОЎСКІ:

## "ДУМАЦЬ ТРЭБА ЗА ЎСІХ РАЗАМ І ЗА КОЖНАГА ПААСОБКУ".

Сёлетняя вясна для Дашкоўскага на старшынёўскай пасадзе першая. Выдатна разумеў, што па тым, як будзе праведзена вясенне-палявая кампанія, у многім можна будзе меркаваць, наколькі ўдала ўпісаўся ў калектыў. Падзеі не фарсіраваў, але і не даваў паслаблення. І ў першую чаргу сабе.

На днях мы яшчэ раз звязаліся з П.П. ДАШКОЎСКІМ.

— Вы пытаецеся аб нашых справах? — пачуўся спакойны голас старшыні. — Я б не сказаў, што ўсё задуманае ажыццявілі. Як і ва ўсіх, у нас не хапае сродкаў. Жывём пакуль за кошт малака. Але і яно не выратоўвае. Бо ўсе выручаныя грошы пайшлі на набыццё ўгнаенняў, паліва, на рамонт пэўнай колькасці сельскагаспадарчай тэхнікі і г.д. Нават на зарплату людзям не хапае. Зусім нядаўна разлічыліся за люты...

*— Павел Паўлавіч, тыя праблемы, аб якіх вы толькі што расказалі, уласцівы сёння ўсім калектыўным гаспадаркам у той ці іншай ступені. Але ж адступацца нельга — ці не так?*

— Як ні банальна гэта прагучыць, але я ўжо ўзяўся за гуж. Ды і не ў маім характары вось так-такам панікаваць. Працаваць можна. І цікава... Пасада галоўнага інжынера, з якой я прыйшоў у Ламбава, вядома ж, адрозніваецца ад старшынёўскай. Тут трэба думаць за ўсіх разам і за кожнага паасобку. Наколькі гэта атрымаецца, пакажа час.

*— Завяршыліся вясенне-палявыя работы, але ж спачываць няма калі?*

— Так. Галоўныя клопаты цяпер звязаны з зялёным жнівом. Трэба закласці трывалую кармавую базу. І не на словах, а на справе. Сёлетняя зімоўка аказалася як ніколі складанай. Кармоў было назапашана мала, і мы ледзь дачакаліся пашавага перыяду. Але і ён пакуль не апраўдвае нашых спадзяванняў па вядомых вам прычынах. Прырода зноў унесла свае непажаданыя карэктывы. Майская засуха, а потым і замаразкі сапсавалі нервы. Частка пасеваў падмерзла, беднымі аказаліся травастоі. Сёння надоі складаюць у параўнанні з мінулым годам на 2-2,5 кілаграма менш. І гэта пры тым, што пашавы дзень стараемся як мага больш павялічыць.

*— Павел Паўлавіч, вы ўзгадалі аб тым, што шмат клопатаў цяпер звязана з сенакашэннем? Што маеце на ўвазе?*

— Наш машынна-трактарны парк. Ён настолькі выпрацаваны, што патрабаваць ад тых жа самых КСК нечага неверагоднага — грэх. І ўсё ж, склаўшы рукі не сядзелі. У цэлым тэхніка гатова. Праўда, з-за тых жа самых фінансавых праблем не можам забраць з капрамонту сякія-такія сельскагаспадарчыя машыны, у прыватнасці, два прэсы, не зняты праблемы з касілкамі...

*— На дапамогу разлічваеце?*

— Пры нашай сітуацыі без яе ніяк нельга. У раёне ёсць атрад па нарыхтоўцы кармоў. Спадзяемся на яго. Хаця, як ужо заўважыў, шмат чаго пастараемся зрабіць уласнымі сіламі. Нам патрэбна трывалая кармавая база. І ў гэтым напрамку скіруем свае намаганні.

*— Дарэчы, колькі і што думаеце назапашваць?*

— Мяркуем закласці звыш 2 тысяч тон сіласу, каля трох — сенажу, а таксама — 660 тон сена для патрэб грамадскага статку. Прыкладна столькі ж сена для сяльчан. На тэрыторыі калгаса пражывае шмат пенсіянераў, людзей, якія ў свой час шмат аддалі роднаму калгасу сіл і здароўя. Іх праблемы мы ніяк не можам скідваць з рахунку.

Я прыйшоў у калгас не секчы з пляча. Тут пражываюць і працуюць сумленныя механізатары і жывёлаводы, кіраўнікі розных сельскагаспадарчых падраздзяленняў... Інжынерную службу, напрыклад, узначальвае цяпер Іван Іванавіч Аўрамчык, нягледзячы на пэўныя праблемы, звязаныя са здароўем...

*— Словам, клопатаў розных хапае?*

— А без іх як жа? Вось трэба выгульныя дворыкі зрабіць для цялят, надоі падцягнуць, з тэхнікай паднавіцца, з даўгамі разлічыцца...

*— Павел Паўлавіч, вы верыце ў калектыўнае гаспадаранне?*

— Там, дзе яно адладжана, у каго ёсць грошы... Чаму ж не верыць? Разам жа працаваць лягчэй.

*— Поспехаў вам.*

— Дзякуй!

**Падрыхтаваў Якаў АБРАМОВІЧ.**

***Незвычайны лёс***

***Помніць пра той край, адкуль тваё карані, натуральна для кожнага. Але ў Г.В. Падута з пасёлка Туголіца памяць асаблівая.***

***Больш за пяць дзесяцігоддзяў жыве тут Ганна Віктараўна, але ні на дзень не забывае пра месца, дзе нарадзілася. З насельнікаў усіх 29 хат, што складалі вёску Селішча Акцябрскага раёна Гомельскай вобласці, у той ваенны 1942 год засталася толькі яна адна. Цудам выжыла, літаральна выпаўзшы па трупах аднавяскоўцаў, якіх немцы сагналі ў адзін хлеў. Аставіла ляжаць расстралянымі, а пасля спаленымі маці, брата і чатырох сястрычак.***

# АДНА З УСІХ...

На некаторы час Ганна атрымала прытулак у жыхароў суседняй вёскі, а пасля разам з імі трапіла ў нямецкі канцлагер, што ў горадзе Дразбургу. Успамінае, як ёй прыходзілася працаваць з раніцы да позняга вечара на сельгасработах. Колькі здзекаў і кпінаў вытрымала, пакуль дачакалася перамогі. Пасля працавала ў воінскай часці, абсціравала параненых.

Аб вяртанні на радзіму Ганна думала з жахам. Да вайны было ўсё — цёплы ўтульны дом, пяшчотная ўсмешка маці, Сенклеты Сцяпанаўны, мудрыя парады бацькі, Віктара Якаўлевіча, які доўгі час узначальваў мясцовы калгас, вясёлы дзіцячы смех брата і сясцёр. Думаць аб тым, што ўраз страчаны родны дом з усімі яго насельнікамі, што ніколі на гэтым свеце не ўбачыць блізкія да болю твары, было невыносна. Вёскі пад назвай Селішча, дзе некалі жылі працаві ыя,шчырыя, адзыўлівыя людзі, не было. Але было разуменне, што калі Бог ёй, адзінай з усіх дараваў жыццё, яна павінна вярнуцца туды, дзе ляжыць прах родных і выканаць свой доўг — захаваць памяць аб бязвінна загінуўшых земляках.

Таму кожны год напярэдадні Дня Перамогі Ганна Віктараўна бярэ, наколькі ўмяшчаецца ў рукі, агромністы букет прыгожых кветак і едзе дадому, на месца сустрэчы з блізкімі людзьмі — у былое Селішча, на могілкі. Паплача, раскажа родным, як цяжка, балюча, крыўдна, што вайна на самым пачатку яе жыцця адабрала магчымасць дыхаць адным паветрам з імі, сумесна перажываць радасці і нягоды, раіцца па розных жыццёвых пытаннях.

Намаганнямі Ганны Віктараўны да могілак загінуўшых аднавяскоўцаў была пракладзена дарога. А на першым часе туды дабрацца было практычна немагчыма. Ды і самі могілкі адразу пасля вайны не былі зруйнаваны з зямлёй, дзякуючы настойлівасці і прынцыповасці гэтай жанчыны.

— Гэта трэба не толькі мне і маім дзецям. Памяць аб тым жудасным часе, аб пакутах людскіх павінна застацца ў сэрцах маладога пакалення, — гаворыць Ганна Віктараўна.

Нягледзячы на тое, што Ганна засталася сіратой, перажыла такое вялікае нервовае ўзрушэнне, яна не раззлавалася на жыццё, а ўзялася за справу. Вярнуўшыся ў сяло, суседняе з былым родным, дзе жыла дваюрадная сястра, пайшла працаваць у леспрамгас. Пасля трапіла ў Туголіцу, дзе паабяцалі работу, якая была ёй па душы — гатавала і адвозіла на поле ежу рабочым ПМК.

Жанчына лічыць сябе шчаслівай, таму што Гасподзь паслаў ёй надзейнага і вернага спадарожніка жыцця, разам з якім выгадавалі траіх дзяцей. Прыгажун Аркадзь, які працаваў у Туголіцы вадзіцелем, а пасля быў заняты на будаўніцтве мастоў, не паслухаў тых, хто раіў развітацца з Ганнай. Маўляў, сірата, непрыкметная, малаграматная. Мужчына слухаў толькі сваё сэрца. І не памыліўся. 52 гады жывуць Аркадзь Пятровіч і Ганна Віктараўна ў міры і згодзе. Сумесна пераадольвалі пасляваенныя цяжкасці, стваралі ўтульны дом. Гэты чалавек адагрэў скамянелую ад гора дзявочую душу, зрабіў усё магчымае, каб Ганна не адчувала сябе адзінокай на гэтай зямлі. І жанчына за ўсё добрае яму вельмі ўдзячна. Яны ганарацца сваімі дзецьмі, у якіх з маленства імкнуліся выхаваць самыя лепшыя чалавечыя якасці. Дачка Наталля і сын Генадзь працуюць на заводзе ў Мінску, а Мікалай узначальвае аддзел забеспячэння на скураным камбінаце ў Бабруйску. 5 унукаў наведваюць, дапамагаюць па гаспадарцы, просяць расказаць аб мінулым. Неяк унучка спытала, чаму ў дзядулі прозвішча Шумілаў, а ў бабулі – Падута.

— Я проста абавязана была зрабіць так, каб прозвішча маёй сям'і не перастала гучаць. Каб вы помнілі пра прадзеда, прабабку і іх дзяцей, імёны якіх перасталі гучаць у вайну і засталіся толькі на ма-гільнай пліце.

1 чэрвеня Ганна Віктараўна адзначыла свой 73-гадовы юбілей. Відаць, гэта сімвалічна, што нарадзілася яна менавіта ў гэты дзень, які лічыцца Міжнародным днём абароны дзяцей. Яе сапраўды ў той жудасны час абараніла нейкая нябачная сіла. І нездарма жанчына раз за разам падкрэслівае, што Бог ёсць на свеце. Бо менавіта ёй, адной з усіх, даў магчымасць радавацца жыццю, мець свой працяг у дзецях, унуках і маліцца за душы блізкіх людзей.

**Іна БАГДАНОВІЧ.**

**НА ЗДЫМКУ: Ганна Віктараўна ПАДУТА на могілках родных і землякоў у былой вёсцы Селішча.**

***Да 56-й гадавіны вызвалення Беларусі***

# У 13 ДЗІЦЯЧЫХ ГАДОЎ

Аднойчы мне пашчасціла пазнаёміцца з адным незвычайным чалавекам. Справа ў тым, што яму толькі пайшоў трынаццаты год, як пачалася Вялікая Айчынная вайна. І з першых яе дзён ён уключыўся ў падпольную работу. А ў 1943-м годзе гэтаму хлопчыку ў Маскве, у Крамлі ўрачыста ўручылі баявы медаль "За адвагу". Гутарка ідзе пра Кіма Міхайлавіча Баглая.

Вось як гэта было. Сям'я Баглаяў жыла на ўскраіне Бабруйска ў раёне Дзеднаўскага пасёлка. Бацька Кіма, Міхаіл Рыгоравіч, арганізаваў адну з першых у горадзе падпольных груп, якая наладзіла сувязі з партызанскім атрадам. Адна з сястрычак Кіма яшчэ да вайны пераехала ў Расію. А тым часам да партызан з самалёта перапраўлілі разведчыцу-радыстку. Камандаванне партызан вырашыла гэтую радыстку з рацыяй ўладкаваць у хаце Баглаяў, пад наглядам іх вярнуўшайся дачкі.

Так было і зроблена. Падпольшчыкі збіралі неабходныя звесткі, а радыстка перадавала найбольш каштоўныя з іх па прызначэнню. І тут вельмі актыўна дзейнічаў Кім. На хлапчука мала хто звяртаў увагу. А ён то адзін, а то і з добрым сябрам часта круціўся, нібы гуляючы, каля аэрадрома, на чыгуначнай станцыі...

...Хата Баглаяў знаходзілася якраз непадалёку ад гэтых аб'ектаў. Хлапчук падлічваў, калі і якія варожыя самалёты базіраваліся на аэрадроме, колькі саставаў і ў які час прыбывала на станцыю. Аднойчы ён дапамог з адной аптэкі горада вынесці медыкаменты, якія потым паступілі партызанам. Так ён з сябрам Валянцінам Філіпчыкам у кузаве варожай аўтамашыны прымацавалі ўзрыўное прыстасаванне, і яна разам з тэхнікай узляцела ў паветра. Многа каштоўных звестак збіраў Кім.

Але найбольш важнай і каштоўнай была такая. Напярэдадні бітвы пад Курскам вораг узмоцнена накіроўваў у бок фронту эшалон за эшалонам. І вось летам 1943-га на стацыю Бабруйск прыбыў вялікі састаў з цюкамі сена. Падпольшчыкі на гэта звярнулі пільную ўвагу: навошта, маўляў, везці сена, калі яго можна было назапасіць бліжэй ля фронта... Састаў ахоўвалі нямецкія вартавыя. Маці Кіма ўлажыла ў кошык яйкі, і сын накіраваўся да таго эшалона, як быццам з мэтай абмяняць іх на прысмакі. Усё ішло па плану. Хлапчук незаўважна ў вячэрнім паўзмроку пачаў прасоўваць металічным штырам паміж цюкамі сена. І той штыр упіраўся ў метал.

Кім непрыкметна скіраваў да хаты, усё расказаў бацьку. А радыстка адразу ж перадала па рацыі звесткі па прызначэнню. Нашы самалёты, як пазней высветлілася, дагналі той састаў у дарозе і разбамбілі. Там аказа-ліся, замаскіраваныя цюкамі сена, навейшыя варожыя танкі "Тыгры"...

Неўзабаве канспіратыўная хата Баглаяў была выяўлена, але і бацьку, і сыну, і радыстцы цудам удалося перабрацца ў партызанскі атрад, куды пазней прыйшла і маці.

У хуткім часе Міхаіла Рыгоравіча Баглая з Кімам на самалёце з партызанскага аэрадрома даставілі за лінію фронта... А потым былі ўзнагароды: бацьку ўручылі ордэн Айчыннай вайны 1-й ступені, а сыну — медаль "За адвагу".

Пра ўсё гэта мне падрабязна расказаў Кім Міхайлавіч Баглай у час той запамінальнай сустрэчы.

**Вадзім ШМЫГАЎ.**

# ТАБОР

*Рассказ*

... Рыбаки, взяв правее, зашагали к месту ловли. Геннадий достал из походного рюкзака банку с наживкой и пакетик с перловой кашей, и разбросал ее по воде в качестве приманки. Забросив снасти в реку, ждали клева, увлеклись, не заметили, как к ним подошли юноша и девушка. Вежливо поздоровавшись с рыбаками и пожелав им удачи, парень представился: "Мы дети цыганского барона, меня зовут Роменом, а сестренку Радой, а как вас кличут, ребята?"

Рыбаки представились, и тут же Геннадий спросил цыгана: "А как вы оказались в наших краях и куда направляетесь?"

Ромен ответил: "Мы из Приднестровья, а там сейчас война, вот мы и откочевали из опасных для жизни мест в поисках мирного и спокойного пристанища."

И тут же девочка негромко, но торопливо сказала: "Геннадий, у вас клюет, смотрите, как поплавок ныряет!" Он быстро, но плавно подсек рыбешку и вытащил из воды карасика. Ромен помог Геннадию снять улов с крючка, а рыбак, поправив наживку, забросил леску в воду. Ромен, опустив рыбу в садок, сказал: "Гена, дай сестренке потешиться". На что Геннадий ответил: "Ну что ж, пусть Рада испытывает свою девичью судьбу на рыбацком поприще", — и протянул удилище девушке. Рада, взяв удочку, внимательно следила за поплавком, который вскоре стал погружаться на глубину. Геннадий крикнул: "Тяни, Рада, клюет...". Девочка резко подняла удилище вверх, из воды выскочил карась, но сорвавшись, плюхнулся в реку и был таков... Огорченная Рада виновато посмотрела на Геннадия и тихо, почти шепотом, промолвила: "Сорвался карасик, а жаль...". "Не горюй, еще поймаешь, только не надо так резко тащить рыбу из воды, нужно плавней и чуть медленнее," — сказал Гена и тут же, поправив наживку, помог девочке забросить леску в реку. Девушка вновь сосредоточила внимание на поплавке, который, дважды нырнув, потянулся в глубь и в сторону кустика лозы. Она, затаив дыхание, плавно, но расторопно вытащила из воды на травянистый берег толстенького линька. Рада, положив удилище, подбежала к рыбке и подняв ее, скользкую и пахучую, радостно засмеялась и забормотала: "Поймала, поймала, сама поймала". Ребята помогли освободить рыбу с крючка и ободряя девочку, снова закинули леску в воду.

Александр смотрел вокруг широко раскрытыми глазами, особенно был удивлен и поражен красотой цыганки: ее большими карими глазами, пышными распущенными волосами, облегавшие хрупкие плечи девушки, белозубой улыбкой, маленьким влажным ротиком с припухшими губами, красивым носиком. На все ее смуглое, с легким загаром лицо, на статную и гибкую фигурку легли отблески солнца, — девочка мгновенно покорила молодого славянина, и он с замиранием сердца любовался ее красотой, не промолвив ни единого слова.

Раздался топот копыт скачущей лошади, и перед рыбаками предстал молодцеватый и лихой всадник на вороном коне, чернобородый, с серьгой в мочке левого уха, его смуглые руки лежали на гриве коня, в одной он держал плетеную из тонких сыромятных ремешков плеть с резной рукояткой, а в другой — поводок уздечки, которая вся была в металлических заклепках и застежках. Седло под всадником также было отделано металлом золотого цвета.

Цыган широко улыбнулся и весело спросил: "Ну, как улов, рыбаки, как отнеслась к вам матушка-удача, может, покажете результаты вашего труда?" Цыганский барон потрепал густые волосы дочурки и сказал: "Я же знал, что ты у меня умница и способная в любом деле; удача во всем сопутствует тебе". И тут же передав поводок Ромену, сказал: "А ну-ка, сынок, искупай скакуна, а то он притомился с дороги...".

Геннадий, усевшись на прибрежную траву, принялся за употребление запасенной для рыбалки провизии, он протянул бутерброд из ржаного хлеба с салом товарищу. Из табора к ним подбежали дети. Ромен спросил: "Ну, каков улов, покажете?" И увидел, присвистнув, сказал: "Да, сегодня матушка-удача явно была на вашей стороне". Рада заметила брату: "Ромен, подкинул бы ты ребят на батькином рысаке, чего им тащиться домой по жаре пешком". "Ребята, подождите я мигом сбегаю за конем", — сказал Ромен. Подскакал Ромен с кибиткой, и Санька уселся впереди, а Геннадий с рыбацкими снастями позади Ромена. Попрощавшись с Радой, наездники поскакали по полевой дороге в направлении родной деревни. Приближаясь к дому, Саша попросил: "Придержи коня у той скамейки, на которой девушка сидит". Ромен осадил рысака возле калитки, у которой сидела на скамье сестра Александра, Алеська.

Алеся с любопытством смотрела на смуглого кудрявого всадника, доставившего ребят с рыбалки. Рослый, кареглазый красавец сразу понравился девушке, и ее сердечко приятно затрепетало. Цыган смотрел на симпатичную блондинку с утонченной талией и высокой грудью. Ее молодое, зрелое тело манило цыгана, и Ромен дерзко предложил блондинке: "Садись ко мне, красавица, прокачу с ветерком", — и тут же, едва девушка приподнялась со скамьи, подхватил ее под руки и сильным рывком усадил перед собой. Конь рванул с места в галоп, умчав седоков за околицу деревни. Ночевать Алеся домой не пришла, и Саша, не дождавшись сестры, улегся спать.

На другой день Санька проснулся с первыми петухами, вся ночь прошла в тревожных снах; перед глазами стоял образ дочери цыганского барона и, думая невольно о ней, он решил поутру навестить табор и увидеться с красавицей Радой. Быстро поднялся и, взяв в сенях лукошко, вскоре уже собирал лучшую клубнику в огороде.

Наполнив лукошко сочными ягодами, он направился к своему другу Генке, так как в одиночестве стеснялся предстать перед юной красавицей Радой. Генка проснулся от грубого толчка. Открыв глаза, увидел товарища, разнаряженного, как на свадьбу, и от удивления даже сел... "Ты что, очумел, среди ночи шляться в таком виде", — сказал Геннадий. Санька ответил, показав лукошко: "Отблагодарим клубничкой своих новых друзей из цыганского табора". Геннадий, увидев отборную клубнику, дал добро. Друзья на велосипедах устремились к Але. Обогнув знакомую рощицу, остановились, ошарашенные увиденным. Табора не было на месте, и только слабый дымок от угасающих костров являлся свидетелем его пребывания на этом прибрежном лугу. Табор, как внезапно возник на этом удивительно красивом месте, так и внезапно исчез.

Возвратившись с реки домой, Санька, обеспокоенный за сестру, устремился в избу. В горнице он увидел спящую Алесю, она лежала, распростершись на кровати, ее пушистые волосы раскинулись на красной наволочке пуховой подушки. Алеся, утомленная любовью, осунулась, носик заострился, губы припухли.

...Ранней весной следующего года она родила черноглазого, смуглого мальчугана, его назвали Романом и окрестили в церкви деревни Турки.

**Н. ЮМАШЕВ,**
**д. Ковали.**

*Из православного календаря*

# ВОЗНЕСЕНИЕ ГОСПОДНЕ

В текущем году этот праздник приходится на 8 июня. Вознесение Господне — первый после Пасхи двунадесятый праздник в церковном богослужебном году. В этот день верующие люди молитвенно вспоминают событие церковной истории, радостное и одновременно печальное: Господь наш Иисус Христос покинул, по преданию, землю и вознесся на небо.



Иконография этого праздника далеко не такая яркая, как у праздников Преображения Господня, Рождества Христова или Крещения. Считается, что в этот день есть прямой повод для грусти. Закончился короткий, уникальный и исключительный период человеческой истории, те 33 года, когда Бог был как один из нас, смертных; время, когда небеса преклонились к земле и земля вознеслась до неба.

Богочеловек Иисус Христос прожил на земле жизнь, полную лишений и закончившуюся страданиями и смертью на кресте. Но затем произошло Воскресение, после чего были еще сорок дней, на протяжении которых Господь оставался вместе со своими учениками и апостолами, рассказывал им о Царствии Божием.

Теперь в жизни человечества наступила новая эпоха. Господь должен был уйти на небо, оставив на Земле несколько верных ему людей. До сих пор ученики жили под непосредственным водительством своего Божественного учителя. Теперь им предстояло самим идти во враждебный мир. И там, на горе Елеонской, Господь учил их, как это надо делать: "... итак, идите, научите все народы, крестя их во имя Отца и Сына и Святаго Духа, уча их соблюдать все, что Я повелел вам..."

Сорок дней по Воскресении Христовом кончились. Господь вознесся на небо. Он вознесся преображенным, но человеческим телом, возвышая до неба нашу человеческую природу, открывая вход верующим в обители небесные. В ком живое сердце, воспламененное верой и любовью, — преодолевай земное притяжение телесных и душевных пристрастий и тянись к небу — молитвой и смирением, состраданием и милосердием, исповедью и пристрастием Святых Тайн Христовых...

По Божьему Учению, Господь удалился от учеников. Им оставалось только ждать. Ждать, когда придет обещанный Утешитель, который наставит их на всякую правду. Ждать, когда явится Дух истины, дающей силы всякому христианину на деление добра.

Сошествие Святого Духа Церковь отмечает через 10 дней после Вознесения Господня.

**В. КРАВЦОВ.**

*Творчасць нашых чытачоў*

# ЯК ЖЫЛІ НАШЫ ДЗЯДЫ

*Ой, ты доля, мая доля,*
*Доля горкая мая.*
*Ды чаму-ж ты ка мне,*
*доля*
*Так бязлітаснай была?*

*Нарадзіла мяне маці*
*Пры дарозе*
*ў жытнім полі.*
*У падоле ўнесла ў хату,*
*Мабыць, мела сілу волі.*

*Прывёў бацька павітуху*
*Каб было, як у людзей.*
*Змітраком мяне назвалі,*
*Марылі, каб рос хутчэй.*

*Толькі сем гадкоў мінула –*
*Бацька лапцікі мне сплёў.*
*Абувай, сынок мой любы,*
*З пастухом гані кароў.*

*Тры зімы вучыў*
*настаўнік,*
*Што з царкоўнага*
*прыходу.*
*Хоць які, ды свет з'явіўся*
*Непісьменнаму народу.*

*Не крыўдую я на татку*
*І на мамечку нічуць.*
*Працавалі аж да поту,*
*Не маглі вольна*
*ўздыхнуць.*

*Не паспеў і азірнуцца,*
*Не згадаў, як татам*
*стаў.*
*Напаткаў сваю Ганульку,*
*Двух сыночкаў*
*Бог паслаў.*

*Памяняліся часіны,*
*Мы па-іншаму жыць*
*сталі.*
*Нашым дзецям свет*
*адкрыўся,*
*Інстытуты паканчалі.*

*І нелішне будзе*
*ўспомніць,*
*Як жылі нашы дзяды.*
*На паноў як гнулі спіны*
*У тыя цяжкія гады.*

*Як зямлю сахой аралі,*
*Пралі, ткалі пры лучыне.*
*Гатавалі як пасагі*
*Падрастаючай дзяўчыне.*

*Як насталі перамены,*
*Доля гонар свой змяніла.*
*У музеі бачым лапці.*
*Што тады моладзь*
*насіла.*

*Світы шэрыя змянілі*
*На дабротныя мяхі.*
*Не ўбачыш больш на вёсцы*
*Ні лучыны, ні сахі.*

*Унукам ёсць аб чым*
*падумаць,*
*Параўнаць, паразважаць.*
*Пра дзядоў сваіх*
*гаротных*
*Сваім дзецям расказаць.*

***Ядвіга ЛІПЕНЬ**, п. Глуша.*



**Районный исполнительный комитет и районный Совет депутатов выражают глубокое соболезнование ШЕПЕЛЕВОЙ Раисе Ивановне и Павловой Ирине Алексеевне в связи с постигшим их большим горем — скоропостижной смертью мужа и отца.**

*Свежий рецепт*

## ГОЛУБЦЫ, ФАРШИРОВАННЫЕ ТВОРОГОМ

Отварите в соленой воде рис и охладите, смешайте с сырыми яйцами и протертым творогом, предварительно заправленными солью и перцем. Подготовьте капустные листья: большой качан обдайте крутым кипятком, если после этого листья окажутся еще жесткими, сложите их в кастрюлю, еще раз ошпарьте кипятком и подержите в кастрюле под крышкой (но не варите) примерно 15 минут.

Рисовый фарш заверните в капустные листья, обжарьте голубцы на сковороде, уложите в сотейник или на противень, залейте сметаной и потушите в духовке. Подавая, полейте сметаной, в которой они тушились.

*На 300 г капусты:* 200 г творога, 2,5 столовой ложки риса, яйцо, 2 столовые ложки масла или маргарина, 0,5 стакана сметаны, пучок зелени, соль и перец по вкусу.


**Бабруйская раённая газета "Трыбуна ПРАЦЫ"**
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: Бабруйскі раённы выканаўчы камітэт. Раённы Савет дэпутатаў. Працоўны калектыў рэдакцыі.
ІНДЭКС 64092. РЭГІСТРАЦЫЙНЫ № 661.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 213800, г. Бабруйск, вул. К. Лібкнехта, 49.

ТЭЛЕФОНЫ: Рэдактара – 7-34-75; адказнага сакратара і аддзела пісьмаў – 2-80-33; аддзела эканомікі і сельскага жыцця – 7-83-36; аддзела сацыяльных праблем – 2-47-02; бухгалтэрыі і аддзела рэкламы – 7-49-24.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункту гледжання аўтара. Аўтары артыкулаў нясуць адказнасць за надрукаваныя матэрыялы.

Газета аддрукавана ў друкарні імя Непагодзіна. 213800, г. Бабруйск, вул. Сацыялістычная, 103. 7-32-05. Нумар падпісаны ў друк 6.06.2000г, у 16-00.
ІНДЭКС 64092. ЗАКАЗ 2640. ТЫРАЖ 3000.

*За рэдактара*
*М. БОСАК.*